www.nv-online.info

№ 28 (4280)

6 красавіка 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**СА СВЯТАМ!**

# Ва ўсе дні нашага жыцця ўзрастаць у веры, надзеі і любові...

*(З Пасхальнага паслання мітрапаліта Мінскага і Заслаўскага Паўла, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі)*

Уваскрэсенне Хрыстова – гэта трыумф любові Бога да Свайго стварэння – чалавека, трыумф Божай любові да кожнага з нас, любові, якая вызваліла нас ад улады д'ябла.

Кожны чалавек, нават самы апошні грэшнік, знаходзіць сёння надзею на выратаванне, бо і ён адкуплены каштоўнай крывёю Ісуса Хрыста. Але каб успрыняць плады гэтага вялікага Адкуплення, трэба мець веру – такую, якая здольна поўнасцю змяніць наша жыццё.

Зараз кожны можа змяніць сваё жыццё, ідучы шляхам Евангельскім, можа, абнавіўшыся і аднавіўшы ў душы стан міру і любові – «Царства Божага», якое «ўнутры вас» (Лк. 17:21), быць усыноўленым Богу. Гасподзь заклікае нас: «Прыйдзіце, блаславёныя Айца Майго, прыміце ў спадчыну Царства, угатаванае вам ад стварэння свету» (Мф. 25:34).




Пасля Свайго Уваскрэсення Ісус Хрыстос, Подзвігазаснавальнік нашага выратавання, кажа тым, хто прыйшоў да Яго магілы: «Радуйцеся!» (Мф. 28:9), святыя апосталы паўтараюць услед за Боскім Настаўнікам: «Заўсёды радуйцеся!», «Радуйцеся заўсёды ў Госпадзе!», таму што для верных прызначана на нябёсах найвялікшая радасць і ўзнагарода (пар. 1 Фес. 5:16; Філ. 4:4). Гасподзь абяцае, што ў жыцці вечным усе верныя Хрысту ўвойдуць «у радасць Гаспадара» свайго (Мф. 25:21).

У сённяшнюю эпоху, калі імкненні многіх людзей абмежаваны імгненнымі клопатамі і турботамі, мітуснёй, калі яны часта не задумваюцца (а хтосьці і проста забывае) пра самае галоўнае – пра выратаванне душы, пра добры Промысел Божы, асабліва важна асэнсоўваць гісторыю чалавецтва ў святле Уваскрэсення Хрыстовага, вучыцца ўсведамляць любоў Тварца, прамудрасць і розум Божы (пар. Рым. 11:33), які вядзе чалавецтва па шляху выратавання.

Гасподзь Сваім Уваскрэсеннем дарує кожнаму, хто паверыць Яму і пойдзе ўслед за Ім, моц цялесных і духоўных сіл у служэнні Яму, Святой Царкве, Бацькаўшчыне, бліжнім і грамадству ў цэлым. Гасподзь дапамагае ўкараніць у нашых сэрцах Евангельскія каштоўнасці – любоў да Бога і бліжніх, дух міласэрнасці і міру, бо гэта – залог духоўнага перамянення свету, якое пачынаецца ў нашай душы і ў нашым сэрцы.

Уваскрэсенне Хрыстова адкрывае чалавецтву сэнс жыцця на зямлі, раскрывае тайну Божага Промыслу праз падзеі, якія адбываюцца вакол нас, і заклікае мець цвёрды намер трымацца запаведзяў Гасподніх. Уваскрэслы Збаўца заклікае нас вызначыць сваю жыццёвую пазіцыю і працаваць з поўнай аддачай сіл і здольнасцяў на славу Божую і дзеля выратавання сваёй душы. Ідучы Евангельскім і выратавальным шляхам, мы, натхнёныя і ўмацаваныя благадаццю Святога Духу, будзем здольнымі саграваць хрысціянскай любоўю і цяплом сваіх сэрцаў і тых, хто жыве побач з намі, хто мае патрэбу ў нашым клопаце, хто пакутуе і смуткуе, хто перажывае жыццёвыя цяжкасці і праблемы.

Царква заклікае ўсіх нас дзяліцца радасцю сённяшняга Пасхальнага свята і, шчыра падтрымліваючы адзін аднаго, не толькі сёння, а ва ўсе дні нашага жыцця ўзрастаць у веры, надзеі і любові.

*Хрыстос уваскрэс!*

*Сапраўды ўваскрэс Хрыстом!*



**СТОП-КАДР**

## Паводка ў Петрыкаве



**КРЫМІНАЛ**

## Прыехаў!

*Узбуджана крымінальная справа ў дачыненні да кіраўніка **ТАА «КВТ-Імпарт»** – афіцыйнага партнёра **Uber** у Беларусі.*

Як паведаміла ўпраўленне Следчага камітэта па Мінску, кіраўніка прадпрыемства падазраюць ва ўхіленні ад выплаты падаткаў, што пацягнула прычыненне шкоды ў асабліва буйным памеры. Гэта пагражае абмежаваннем волі на тэрмін да пяці гадоў або пазбаўленнем волі на тэрмін ад трох да сямі гадоў з канфіскацыяй маёмасці.

Дырэктара фірмы ўзялі пад варту.

**Віктар ШПАК.**

**АФІЦЫЙНА**

## Як «дармаеды» будуць аплачваць жыллёва-камунальныя паслугі?

Урад вызначыў парадак аплаты жыллёва-камунальных паслуг беспрацоўнымі працаздольнымі грамадзянамі. Пастановай №240 ад 31 сакавіка зацверджана Прыкладнае палажэнне аб пастаянна дзейнай камісіі па каардынацыі работы па садзейнні занятасці насельніцтва, у якім утрымліваецца адпаведны алгарытм.

Згодна з дакументам, для фарміравання спісу працаздольных грамадзян, якія не заняты ў эканоміцы і аплачваюць паслугі з поўным пакрыццём выдаткаў, на чарговы квартал камісіяй выкарыстоўваецца база дадзеных. Пасля атрымання камісіяй доступу да базы дадзеных інфармацыя, якая змяшчаецца ў ёй, накіроўваецца на працягу двух працоўных дзён у арганізацыі ЖКГ. Звесткі аб асобах, якія цалкам аплачваюць паслугі, накіроўваюцца арганізацыямі ЖКГ у камісіі не пазней за 6-е чысло апошняга месяца кожнага квартала. Пасля атрымання звестак аб гэтых асобах камісіі арганізуюць з імі працу, у тым ліку разглядаюць іх заявы. Пасля гэтага фарміруецца спіс працаздольных грамадзян, якія не заняты ў эканоміцы і цалкам аплачваюць паслугі ЖКГ.

Сфарміраваны спіс працаздольных грамадзян, якія не заняты ў эканоміцы і цалкам аплачваюць паслугі ЖКГ, да 1-га чысла другога месяца кожнага квартала накіроўваецца для зацвярджэння ў раённы (гарадскі) выканаўчы камітэт (мясцовую адміністрацыю). Затым зацверджаны спіс не пазней за 8-е чысло другога месяца кожнага квартала накіроўваецца ў арганізацыі ЖКГ, якія ажыццяўляюць улік, разлік і налічэнне платы за жыллёва-камунальныя паслугі і платы за карыстанне жылым памяшканнем.

Камісіі не пазней за 10-е чысло другога месяца кожнага квартала інфармуюць грамадзян аб уключэнні іх у спіс. Па выніках працы камісія падае аператару базы дадзеных інфармацыю для яе карэкціроўкі.

Як патлумачылі БелаПАН у прэс-службе Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, спіс паслуг ЖКГ, якія працаздольныя беспрацоўныя грамадзяне абавязаны аплачваць цалкам, гатовы і будзе апублікаваны ў найбліжэйшы час.

Дэкрэт №1 «Аб садзейнні занятасці насельніцтва» Аляксандр Лукашэнка падпісаў 25 студзеня. Ён запрацуе ў поўным аб'ёме 1 студзеня 2019 года.

**Марына НОСАВА.**

БелаПАН.

**РЭЙТИНГ**

## В Беларуси есть 200 успешных и влиятельных бизнесменов

*Вот уже несколько лет портал EJ.BY при поддержке МТБанка составляет их список. Вот как на этот раз выглядит перечень первой тридцатки.*

1. **Александр МОШЕНСКИЙ**, 47 лет (1970), Брест.
Генеральный директор СП ООО «Санта Импэкс Брест».
***Интересы***: продовольствие, ритейл, отдых и развлечения, недвижимость.

2. **Аркадий ДОБКИН**, 57 лет (1960), Ньютаун (Пенсильвания, США).
Президент и председатель совета директоров EPAM Systems Inc.
***Интересы***: IT.

3. **Павел ТОПУЗИДИС**, 61 год (1956), Минск.
Председатель совета директоров ООО «Табак-Инвест».
***Интересы***: табак, ритейл, недвижимость, отдых и развлечения.

4. **Виктор КИСЛЫЙ**, 41 год (1976), Никосия (Кипр).
Генеральный директор Wargaming Group Ltd.
***Интересы***: IT, финансы, недвижимость, инвестиции.

5. **Александр ЛУЦЕНКО**, 55 лет (1962), Люксембург (Люксембург)/Светлый (Россия).
Председатель совета директоров Sodrugestvo Group S.A.
***Интересы***: сельское хозяйство, продовольствие, торговля, транспорт.

6. **Алексей ОЛЕКСИН**, Минск.
Директор СЗАО «Энерго-Оил».
***Интересы***: ТЭК, финансы, логистика, недвижимость, продовольствие.

7. **Иван МИХНЕВИЧ**, 38 лет (1979), Никосия (Кипр).
Генеральный директор Synergy Horizon, член инвестиционного комитета SCSS Fund Management.
***Интересы***: IT, ТЭК, инвестиции.

8. **Александр ЦЕНТЕР**, 51 год (1966), Минск.
Председатель правления Группы компаний А-100.
***Интересы***: ритейл, ТЭК, недвижимость, транспорт.

9. **Сергей ЛИТВИН**, 51 год (1966), Монако (Монако).
Член наблюдательного совета ООО «Евроторг».
***Интересы:*** ритейл, торговля, алкоголь, недвижимость, продовольствие, финансы.

10. **Владимир ВАСИЛЬКО**, 51 год (1966), Монако (Монако).
Член наблюдательного совета ООО «Евроторг».
***Интересы***: ритейл, торговля, алкоголь, недвижимость, продовольствие, финансы.

11. **Евгений БАСКИН**, 52 года (1965), Могилев.
Генеральный директор СЗАО «Серволюкс».
***Интересы:*** продовольствие, сельское хозяйство, ритейл, недвижимость.

12. **Виктор ПРОКОПЕНЯ**, 34 года (1983), Минск, Лондон (Великобритания).
Основатель VP Capital, генеральный директор exp (capital) Limited.
***Интересы***: IT, инвестиции, недвижимость.

13. **Валентин БАЙКО**, 47 лет (1970), Гродно.
Председатель общего собрания участников СООО «Конте Спа».
***Интересы***: текстиль, недвижимость, продовольствие, сельское хозяйство, ритейл, отдых и развлечения.

14. **Дмитрий БАЙКО**, Гродно.
Заместитель генерального директора СООО «Конте Спа».
***Интересы***: текстиль, недвижимость, продовольствие, сельское хозяйство, ритейл, отдых и развлечения.

15. **Александр ШАКУТИН**, 58 лет (1959), Минск.
Председатель совета директоров ОАО «Амкодор – управляющая компания холдинга», председатель совета директоров ООО «Салео – управляющая компания холдинга».
***Интересы***: машиностроение, ТЭК, инвестиции, недвижимость, ритейл.

16. **Валерий ШУМСКИЙ**, 57 лет (1960), Москва (Россия), Минск.
Председатель совета директоров Группы компаний «Юкола».
***Интересы***: ТЭК, отдых и развлечения.

17. **Николай ВОРОБЕЙ**, Новополоцк.
Директор ООО «Автоимпорт», член наблюдательного совета ЗАО «Абсолютбанк».
***Интересы***: ТЭК, логистика, отдых и развлечения, деревообработка, недвижимость, инвестиции.

18. **Иван ЛОГОВОЙ**, Минск.
Председатель совета учредителей СП ООО «Фармлэнд».
***Интересы***: фармацевтика.

19. **Олег ХУСАЕНОВ**, 53 года (1964), Минск.
Генеральный директор ООО «Зубр Капитал», председатель совета директоров ООО «Международный автомобильный холдинг Атлант-М».
***Интересы***: инвестиции.

20. **Алексей ЖУКОВ**, 50 лет (1967), Минск.
Генеральный директор Группы компаний «Алютех».
***Интересы***: стройматериалы.

21. **Николай МАРТЫНОВ**, 61 год (1956), Витебск.
Генеральный директор ООО «Управляющая компания холдинга «Белорусская кожевенно-обувная компания «Марко».
***Интересы***: обувь, ритейл, недвижимость.

22. **Василий ВОРФОЛОМЕЕВ**, Минск.
Генеральный директор ЗАО «Белтопэнерго».
***Интересы:*** торговля, ТЭК, ритейл, текстиль, недвижимость, нефтесервис.

23. **Сергей ЛЕВТЕЕВ**, 62 года (1955), Прага (Чехия).
Председатель правления IBA Group.
***Интересы***: IT, недвижимость.

24. **Виктор ПЕТРОВИЧ**, Минск.
Директор ООО «Табак-инвест».
***Интересы:*** табак, ритейл, недвижимость, отдых и развлечения.

25. **Николай КАЦЕЛАПОВ**, 38 лет (1979), Никосия (Кипр).
Директор по развитию бизнеса Wargaming Group Ltd.
***Интересы***: IT, финансы, недвижимость.

26. **Юрий ЧИЖ**, 54 года (1963), Минск.
Председатель наблюдательного совета группы компаний «Трайпл», Минск.
***Интересы***: строительство и недвижимость, стройматериалы, ритейл, продовольствие, сельское хозяйство, отдых и развлечения, фармацевтика.

27. **Сергей БОРОК**, 52 года (1965), Рига (Латвия).
Председатель правления SIA Bulbash.
***Интересы:*** алкоголь, недвижимость.

28. **Александр ЯЦУК**, Минск.
Генеральный директор ОДО «Виталюр».
***Интересы***: ритейл, торговля, недвижимость.

29. **Сергей ГВАРДЕЙЦЕВ**, 43 года (1974), Минск, Рига (Латвия).
Председатель совета директоров Группы компаний «Итранзишэн».
***Интересы:*** IT.

30. **Александр ЗАЙЦЕВ**, Минск.
Председатель общего собрания участников ООО «Бремино Групп».
***Интересы:*** логистика.

**З ПРЫЗНАЧЭННЕМ!**

### Ірына АКУЛОВІЧ – гендырэктар дзяржаўнага інфармагенцтва БЕЛТА



Аляксандр Лукашэнка прызначыў генеральным дырэктарам дзяржаўнага інфармагенцтва БЕЛТА Ірыну Акуловіч, якая да гэтага працавала дырэктарам тэлерадыёкампаніі "Магілёў".

Нарадзілася ў 1974 годзе. Скончыла Магілёўскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя Куляшова. Член Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу 6-га склікання ад Магілёўскай вобласці, а таксама член пастаяннай камісіі па заканадаўстве і дзяржаўным будаўніцтве.

У Магілёўскім абласным тэлерадыёаб'яднанні прайшла шлях ад уласнага карэспандэнта да загадчыка карэспандэнцкага пункта ў Магілёве Агенцтва тэлевізійных навін Белтэлерадыёкампаніі. З 2009 года – дырэктар РУП «Тэлерадыёкампанія «Магілёў».

### Віталь ДРОЖЖА стаў міністрам лясной гаспадаркі



Нарадзіўся ён у 1978 годзе ў гарадскім пасёлку Карэлічы Гродзенскай вобласці. У 2000 годзе скончыў Беларускі дзяржаўны тэхналагічны ўніверсітэт, у 2011 годзе – Акадэмію кіравання пры прэзідэнце. Працоўную дзейнасць пачынаў у Лагойскім лясгасе рабочым. У 2000–2001 гадах – служба ў органах унутраных спраў. У 2001–2006 гадах – ляснічы Чырвона-Швабскага лясніцтва Лагойскага лясгаса. У 2006–2008 гадах – галоўны інспектар аддзела кантрольна-рэвізійнай работы і дзяржаўнага кантролю за лесам Міністэрства лясной гаспадаркі Беларусі. З 2008-га па 2013 год – дырэктар Бабруйскага лясгаса. З 2013 года – на пасадзе генеральнага дырэктара дзяржаўнай прыродаахоўнай установы «Нацыянальны парк «Браслаўскія азёры».

### Уладзімір ЖАЎНЯК – намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь



Апошнія амаль чатыры гады ён працаваў намеснікам дырэктара Цэнтра заканадаўства і прававых даследаванняў.

Жаўняку 50 гадоў. Ён скончыў Новасібірскае вышэйшае ваенна-палітычнае агульнавайсковае вучылішча, а таксама юрфак БДУ і Інстытут дзяржаўнай службы Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь.

З 2002 года працаваў у Нацыянальным цэнтры заканадаўства і прававых даследаванняў Рэспублікі Беларусь на розных пасадах.

Народная Воля http://www.nv-online.info
6 КРАСАВІКА 2018 г.

ДЫЯЛОГІ





## Міхась СКОБЛА — архіепіскап АРЦЕМІЙ

# «Пасха – не проста свята, гэта сутнасць хрысціянства»

*Неяк у Жыровіцкім Успенскім манастыры я набыў кнігу “Пропаведзі”. Яна мяне ўразіла “і духам, і літарай”, дапамагла знайсці адказы на многія пытанні. Аказалася, што гэта ўжо не першае выданне, і пропаведзі па-беларуску карыстаюцца попытам не толькі сярод праваслаўных святароў, але і сярод людзей свецкіх. А неўзабаве надарылася нагода сустрэцца і пагутарыць з аўтарам кнігі – архіепіскапам Гродзенскім і Ваўкавыскім Арцеміем.*

**– Уладыка, дзякуй вам за магчымасць такой сустрэчы. Не дзіўна, што пасля дзесяцігоддзяў ваяўнічага атэізму Пасху (Вялікдзень) шмат хто ўспрымае як чарговае святочнае застолле, адметнасцю якога з’яўляюцца хіба пафарбаваныя ў чырвоны колер яйкі. А як гэта свята павінны ўспрымаць сапраўдныя хрысціяне?**

– Пасха – не проста свята, гэта сутнасць хрысціянства. Царква ў сваіх песнапеннях называе гэту падзею – паўстанне з мёртвых Сына Божага і Госпада нашага Ісуса Хрыста – Святам са святаў і Урачыстасцю з урачыстасцяў, якія сцвярджаюць у нашым жыцці ідэалы дабрыні і святасці, нараджаюць у душы самыя светлыя і высакародныя пачуцці. Першыя хрысціяне сваю веру называлі не рэлігіяй, а Добрай Весткай, і сваё прызначэнне ў свеце бачылі ў яе абвяшчэнні і распаўсюджванні. Няхай прыгнятаюць нас штодзённыя клопаты і турботы, няхай пануюць на зямлі хваробы, гора і нястачы, няхай лютуе “князь свету гэтага”, няхай пагражаюць нам тысячы смерцяў – з намі Бог, Які ўваскрашае з мёртвых! Смерць на зямлі цяпер для нас не страшная: яна – сон, яна – часовая з’ява ў нашым быцці. “Смерць, дзе тваё джала?! Пекла, дзе твая перамога?!” Царква сцвярджае, што Сын Божы смерць нашуператварыў у сустрэчу з Сабой, у пярэдадзень уваскрасення. Таму мы, хрысціяне, не баімся больш нікога, хто можа пазбавіць нас зямнога жыцця, – нам у Хрысце належыць жыццё вечнае. Пра гэта сведчыць прыклад мільёнаў мучанікаў старажытнасці і нашых дзён: яны сустрэлі смерць і перамаглі яе верою і любоўю.

**– У сучасным свеце ледзь не штодзень адбываюцца тэракты, працягваюцца войны, людзі як быццам забыліся на запаветы Хрыста. Як вярнуць іх з грахоўных сцежак на дарогу дабра і чалавекалюбства?**

– Так, мы жывём у свеце, які адрокся ад Бога і заняты толькі самім сабою. І амаль няма месца ў ім любові Божай, Божаму святлу. Але ў гэтыя дні мы гаворым самі сабе, і гаворым свету, і сведчым: не памерла, не загінула, не знікла, не адышло ў нябыт Царства Хрыстова. Услухайцеся – Хрыстос уваскрос! Якой нябеснай светлай радасцю звіняць гэтыя два словы і адгукаюцца ў кожнай хрысціянскай душы. Хрысціянства – рэлігія радасці. Святло ў цемры свеціць, і цемра перамагчы яго не можа; вароты пякельныя не перамогуць Царкву, не перамогуць Царства Божае, Царства жыцця і Царства любові. Пасха Хрыстова – гэта свята дзівоснай перамогі над смерцю і цела, і душы. Невыпадкова святы апостал Павел гаворыць: “Для мяне жыццё – Хрыстос, і смерць – набытак”. Таму і няма месца тужлівай безнадзейнасці і роспачы ў душы хрысціянскай. Што б ні здаралася ў свеце – нічога не бойцеся! Таму, хто знаходзіцца ў роспачы, упаў духам і знясілены пад цяжарам жыццёвых выпрабаванняў, неабходна пазбавіцца маркоты і знайсці ў сабе новыя сілы, каб цярпліва несці дадзены Богам жыццёвы крыж. Светлая радасць Уваскрасення Хрыстова спалучаецца з цвёрдай надзеяй на перамогу праўды і святла ў нашым жыцці. Перамога гэта неабходна нам заўсёды і асабліва ў цяперашні няпросты час.

### «Калі прыходзілі захопнікі на нашу зямлю, яны найперш знішчалі храмы і мову»

**– Ужо двума выданнямі выйшаў у свет зборнік вашых пропаведзяў. Для вас было прынцыповым выдаваць іх па-беларуску?**

– Безумоўна. Праблема мовы для нас вельмі важная. Мы цяпер патрабуем ад святароў вядзення богаслужэнняў на беларускай мове. І найперш святарам трэба пераходзіць на мову ў пропаведзях. Перавесці ўвесь чын богаслужэння складана, вельмі цяжка перакласці тэксты. Каб перакласці іх якасна, трэба мець такіх святароў, як Кірыла Тураўскі, прытым чалавек пяць. Тады, можа, што і зрабілі б. А пропаведзь натуральная для кожнага святара, і народ, слухаючы яе на роднай мове, будзе ўзбагачацца культурай свайго краю. Мы ж ведаем, калі прыходзілі захопнікі на нашу зямлю, яны найперш знішчалі храмы і мову. Без веры і мовы чалавек ператвараецца ў жывёліну, якою лёгка кіраваць. А прыкметы свабоднай асобы – вера і свая нацыянальная культура. Таму вельмі важна, каб гучалі пропаведзі па-беларуску.

**– У каталіцкіх касцёлах беларускую мову можна пачуць усё ж часцей, чым у праваслаўных цэрквах.**

– Мы шмат гаворым пра мову, але мала што робім. Той, каму не хапае мовы ў царкве, сам, як правіла, у царкву не ходзіць. Калі мы ўводзім у богаслужэнні беларускую мову, людзі часам пярэчаць: нашто нам гэта, пакіньце як было раней. Тут галоўнае – не нашкодзіць, бо можна многіх адпіхнуць ад царквы. На маю думку, у кожным храме варта рэгуляваць богаслужэнні па-свойму. Да мяне неяк прыйшлі вернікі з Каложы з пытаннем: чаму ў нас няма беларускамоўных богаслужэнняў? Я адказаў, што калі вы гэтага хочаце, то яны з’явяцца. І мы дабраславілі кожную суботу служыць па-беларуску. Думаеце, храм стаў перапоўнены? Тыя просьбіты адзін раз прыйшлі, паслухалі, паляскалі ў далоні, а потым засталіся тыя ж бабулькі… Мая мара – каб ва ўсіх нядзельных школах выкладалі па-беларуску. Я звяртаюся да бацюшак, калі наведваю прыходы, прашу шукаць настаўнікаў, каб вучылі нашых дзетак па-беларуску. Мы ўжо – як ёсць, але дзеткі няхай з дзяцінства прывучаюцца да роднай мовы ў царкве.




Архіепіскап Арцемій асвячае Бібліятэку імя Ларысы Геніюш пры Каложскай царкве. 2016 год.

**– Вы кажаце: вернікі папросяць – будуць богаслужэнні па-беларуску. Атрымліваецца, што паства кіруе пастырам. А ці не павінна быць наадварот?**

– У нас паства розная. Калі я ўпершыню правёў беларускую службу ў Каложы, былі абураныя тэлефонныя званкі, што я “спаганіў традыцыйнае богаслужэнне”. Але ж мы нічога “не спаганілі”, а здзейснілі тое, на што атрымалі дабраславенне. Не падабаецца – не слухай, ідзі ў іншы храм. Таму, паўтаруся, кожны храм павінен мець як бы сваю спецыялізацыю. Скажам, у Гродне ёсць старажытная Каложа – хай там гучыць беларуская мова. Ёсць храм Усіх Беларускіх Святых – сам Бог наказаў там дзень і ноч на роднай мове маліцца. Кафедральны сабор быў заснаваны вайскоўцамі – хай ён застаецца такім, якім быў, каб і для тых, хто да нас прыехаў, там было ўсё зразумела. Царква – жывы арганізм, і гэтым жывым арганізмам трэба акуратна і ўмела карыстацца.

### «Царква заклікана быць актыўнай, а не маўклівай і абыякавай да ўсяго, што адбываецца»

**– На Гродзеншчыне Праваслаўная царква найбліжэй судакранаецца з Каталіцкім касцёлам. Раней, у 1990-я гады, часам здараліся канфлікты з-за храмаў. А сёння – ці ўсё ціхамірна? Ці ўдаецца супрацоўнічаць?**

– На маю думку, усе канфліктныя сітуацыі паміж канфесіямі не столькі рэлігійныя, колькі палітычныя. Рэлігія (ад лацінскага religare – звязваць, аб’ядноўваць) – гэта яднанне Бога і чалавека. Чалавек, які мае Бога ў душы, зусім іначай ставіцца да свайго сабрата па веры. А ў нас часам імкнуцца ўсадзіць клін мірскога бязбожжа паміж канфесіямі. Навошта гэта рабіць? Скажам, я глыбока ўпэўнены, што ратаванне для нас – у праваслаўі. Але некаторыя людзі думаюць іначай. Ну і хай сабе. Чалавек заходняга складу не зможа выстаяць доўгае ўсходняе богаслужэнне. А чалавек усходні не зразумее богаслужэння заходняга, калі некалькі літургій служыцца цягам аднаго дня. У нас на Гродзеншчыне канфесійная мяжа праходзіць часам праз сем’і, і мы не маем права распальваць варожасць. Наша задача – знайсці агульнае. Хочаш даказаць сваю рацыю – дакажы праз Евангелле, дакажы сваім жыццём. Найлепшае месца, дзе ўсе канфесіі мірна суіснуюць, – гродзенскі шпіталь. Там працуюць групы міласэрнасці – праваслаўныя і каталіцкія. Мне таксама даводзіцца там лячыцца. У кожнай палаце ляжаць і праваслаўныя, і каталіцкія абразкі, усе ставяцца да гэтага з павагай і разуменнем. Помню, зайшла каталіцкая манашка і запрасіла мяне на споведзь.

**– Яна ведала, да каго звярталася?**

– Не, я сядзеў проста ў халаце. На яе словы: “Слава Ісусу Хрысту!” я адказаў: “Слава навекі!” Яна мяне запрасіла на споведзь, я падзякаваў і сказаў, што калі дактары адпусцяць, то прыйду. Усё вельмі ветліва, культурна, кожны запрашае да сябе, кожны можа наведаць і богаслужэнне, і споведзь, і прычасце.

**– Адносна нядаўна ваша епархія была падзелена, з’явіліся новыя архіерэі. Як тлумачылася, гэта было зроблена для таго, каб епіскап быў бліжэй да народа. Ці сталася так? Скажам, ці ведаеце вы кожнага святара, кожны прыход?**

– Усіх святароў, безумоўна, ведаю. Ужо каля сотні новых святароў прайшлі рукапалажэнне праз нашы рукі. І прыходы мы часта наведваем, кожны святар можа звярнуцца са сваімі праблемамі. Раней Гродзенская епархія ўключала і тэрыторыю Літвы, і Беласточчыну, не кажучы ўжо пра Ліду і Навагрудак. А цяпер Гродзенскую вобласць падзялілі на некалькі епархій. Куды ўжо далей дзяліць? Каб у кожным калгасе свой епіскап быў? Ёсць жа пэўныя традыцыі, высокі статус епіскапа, таму ўсё павінна быць у разумных межах. Пасля вайны ўся Беларусь была адной епархіяй – гэта таксама няправільна. Цяпер на Гродзеншчыне некалькі епархій зрабілі – паглядзім, якія будуць вынікі. Царкоўнае жыццё шматграннае. Недзе ў Заходняй Еўропе епіскап, маючы пяць прыходаў, радуецца, а дзе-небудзь у Расіі епархіі і па пяцьсот прыходаў могуць быць.

**– У адной з вашых пропаведзяў гаворыцца, што праваслаўная царква мусіць быць ваяўнічай. Але хіба гэта не пярэчыць хрысціянскаму пастулату пра змірэннасць, пра тое, што трэба падставіць правую шчаку, калі вас ударылі па левай?**

– Не пярэчыць. Па-першае, трэба разумець дагматычнае паняцце – царква нябесная і царква зямная. Царква зямная – ваяўнічая супраць зла. Сэнс тут такі: вы не забіваеце хворага, вы забіваеце яго хваробу, дапамагаеце яму вяяваць з хваробай. Таму царква заклікана быць актыўнай і ваяўнічай, а не маўклівай і абыякавай да ўсяго, што адбываецца. Што да згаданага вамі пастулата, то яго сэнс у тым, што нельга гвалтам супрацьстаць гвалту – зло злом не вынішчыш. Часам любоў, змірэнне і ахвярнасць мацней за любую зброю. Гасподзь адкрыта сказаў: калі ты хочаш даказаць сваю рацыю – аддай за яе жыццё. Калі б кожны з нас за чысціню хрысціянскага жыцця, за яго прынцыпы быў гатовы аддаць уласнае жыццё, то мы мелі б зусім іншы стан грамадства. Таму хрысціяне – соль зямлі, яны ўсім замінаюць. Але мы не павінны журыцца, мы павінны змагацца са злом.

### «Любоў, змірэнне і ахвярнасць мацней за любую зброю»

**– Пытаючыся пра ваяўнічасць царквы, я яшчэ адзін аспект меў на ўвазе. Часам можна бачыць, як святар асвячае ваенны карабель ці самалёт-знішчальнік. Як вы да гэтага ставіцеся?**

– Існуе традыцыя асвячэння сцягоў – яна зразумелая. Асвячаючы зброю, царква дабраслаўляе войска на абарону Айчыны. Праблема ў тым, дзе тая зброя будзе выкарыстоўвацца. Калі, напрыклад, участковы міліцыянер з пісталета стрэліць вам у лоб, гэта застанецца на яго сумленні. Пісталет тут не вінаваты. Царква ж дабраслаўляе ваяра на абарону жыцця, на абарону Айчыны ад пасягальніцтва знешніх сіл. Але і тут нельга перагінаць палку. Самалёты, ракеты… Хутка космас пачнём асвячаць. Што значыць сам працэс асвячэння? Мы просім Бога, каб тое, што асвячаецца, пайшло на дабро. Не вада ж асвячае, асвячае наша малітва да Госпада. Скажам, чалавек просіць асвяціць аўтамабіль, які набыў за зароблены грошы. Тым самым ён просіць дабраславення, каб той аўтамабіль служыў на карысць яго сям’і, дзеля дапамогі людзям і ў славу Божую.

**– З вашай кнігі “Пропаведзі” мне запомнілася адна гісторыя, як у час ваяўнічага бязбожжа нейкі чыноўнік сказаў святару: вось памруць вашы бабулькі, і застанецеся вы без вернікаў. На што святар адказаў: а нашы бабулькі несмяротныя… Хай так і будзе, але чым вы сучасную моладзь прывабліваеце ў храмы?**

– Мы праводзім заняткі ва ўніверсітэце, сябруем са студэнтамі, знаходзім з імі агульную мову. Ад моладзі ўсё ў жыцці залежыць, у тым ліку царква. Нездарма, паміраючы на крыжы, Ісус Хрыстос даручае клапаціцца пра сваю Маці Багародзіцу Іаану Багаслову, якому на той час было гадоў 16–17. Хрыстос кажа: “Гэта маці твая!” І такім чынам зусім маладому чалавеку ён даручае Царкву. Сённяшняя моладзь усё бачыць, усё адчувае, асабліва адчувае любую фальшывасць. З ёю трэба ўмець кантактаваць. Калі я быў святаром, мы на роварах здзяйснялі паломніцтвы з нашай нядзельнай школай і місіянерскімі курсамі ў Полацкі манастыр і ў Жыровічы. Было вельмі цікава.

**– Дык і каталіцкі мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч на святы ў Будслаў на ровары ездзіць. Неяк мне давялося бачыць у тэлевыпуску спартыўных навін, як ксяндзы ў футбол гуляюць. А як вы ставіцеся да заняткаў спортам?**

– Да спорту я стаўлюся станоўча, але не як да прафесіі, а як да здаровага ладу жыцця. Я думаю, што царква не прагадае, калі будзе надаваць гэтаму ўвагу. У нас на Гродзеншчыне ў сельскай мясцовасці вернікі да гэтага часу прыбываюць на службу на роварах. Прыязджаеш у прыход і бачыш – стаяць каля царквы дваццаць ровараў. Мы і другімі відамі спорту займаемся. У кабінеце сакратара епархіі айца Анатоля кубкі стаяць – за перамогі нашай праваслаўнай моладзі ў спаборніцтвах па валейболе. І ў нас нядаўна футбольны турнір праводзіўся, я там таксама ўдзельнічаў, праўда, не гуляў, а дапамагаў судзіць. Так што стаўленне маё да спорту вельмі станоўчае. На жаль, узрост і здароўе ўжо не дазваляюць мне сесці на ровар і паехаць у суседнюю епархію ў госці.

### «Мы молімся, каб Айчына наша Беларусь адрадзілася – у хрысціянскім сэнсе»

**– Два гады таму пры Каложскай царкве вы асвяцілі Бібліятэку імя Ларысы Геніюш, часам згадваеце яе ў сваіх пропаведзях. Для дзяржавы паэтка па-ранейшаму – ледзь не злачынец (бо нерэабілітаваная). А кім ёсць Геніюш для вас?**

– Для мяне яна найперш хрысціянка, якая ў цяжкія часы падтрымлівала святара ў Зэльве. Усе ад яго адвярнуліся, а яна – бараніла, нават прытуліла ў сваёй хаце. Я не спецыяліст у літаратуры і не магу аб’ектыўна ацаніць творчасць Геніюш, але па яе творах відаць, што іх пісала верніца. Асабліва гэта відно ва ўспамінах пра ГУЛАГ, дзе так кранальна апісана, як вязні пяклі піражкі з крыжыкамі на Вялікдзень і віншавалі адзін аднаго. Гэта сапраўднае споведніцтва. Думаю, Ларысу Геніюш варта намаляваць у храме – як споведніцу нашай веры, якая сведчыла пра Хрыста ў цяжкія часы.

**– Я перадам вашы словы настаяцелю Свята-Траецкай царквы ў Зэльве айцу Георгію Субаткоўскаму. І ў Мінску, і ў Гродне ёсць храмы Усіх Беларускіх Святых, і мы часам не задумваемся, хто і за што быў да іх залічаны. А ці ёсць нейкія рысы, якія вылучаюць беларускіх святых у почаце ўсіх кананізаваных Праваслаўнай царквой?**

– Беларуская святасць мае свой спецыфічны характар. Незалежна ад таго, гутарка ідзе пра князёў, святцеляў, мучанікаў ці прападобных, іх святасць была, як правіла, дзейная, накіраваная на грамадскае, агульнае дабро. Аскетніцтва, якое прынцыпова паклікана да ізалявання, асабістага збаўлення, у беларускіх святых спалучалася з грамадскім служэннем. Беларускія святыя не абмяжоўваліся манастырскімі келлямі, яны неслі ў народ святло сваіх ведаў і ўласны прыклад праведнага жыцця. Бо хто такія святыя? Гэта людзі, падобныя да Хрыста. Яны адрозніваюцца ад астатніх тым, што наблізіліся да евангельскага ідэалу Збавіцеля. Беларускіх святых параўнальна мала, і мы выдатна іх ведаем – і Кірылу Тураўскага, і Еўфрасінню Полацкую. Сёння, каб узнавіць нашу краіну, неабходна адрадзіць у ёй рэлігійны дух. Беларускія святыя сваім духоўным подзвігам звязаныя з нашай Айчынай, і мы молімся да іх, каб Айчына наша Беларусь адрадзілася – у хрысціянскім сэнсе.

СТОП-КРАН

# «І будзьце шчаслівыя, што наогул выпусцілі на волю…»

*Праваабаронца патлумачыў, чаму суд Маскоўскага раёна прыняў рашэнне не задавальняць іск эксфігурантаў справы «Белага легіёна» аб спагнанні маральнай кампенсацыі.*



Як вядома, калектыўны іск падалі чатыры фігуранты справы «Аб падрыхтоўцы масавых беспарадкаў»: **Андрэй Дундукоў, Віктар Мароз, Сяргей Стрыбульскі і Віктар Данілаў.** У іску была заяўлена сума кампенсацыі – 100 тысяч рублёў кожнаму. Паводле закона адказчыкам выступала Міністэрства фінансаў.

Прадстаўнік Мінфіна заявіў, што іск не прызнае, бо спыненне крымінальнай справы не доказвае, што дзеянні органаў, якія вялі яго, былі незаконнымі. У выніку суд вырашыў іск не задавальняць.

“*Сама працэдура кампенсацыі маральнай шкоды ў сувязі з незаконным утрыманнем пад вартай у Працэсуальна-крымінальным кодэксе выкладзена досыць дзіўна*, – пракаментаваў сітуацыю праваабаронца **Валянцін Стэфановіч**. – *Бо спачатку, да суда, ты павінен звяртацца ў органы крымінальнага пераследу, каб яны пацвердзілі твае права на кампенсацыю маральнай шкоды. Адным словам, гэтае права павінны вызначаць тыя, хто крымінальны пераслед і ажыццяўляў. Але фігуранты “справы патрыётаў” пайшлі наўпрост у суд, хаця агульны вынік гэта не змяніла – ім адмовілі ў іскавых патрабаваннях. Маўляў, ніхто не прызнаў меру стрымання пад вартай незаконнай*”.

Валянцін Стэфановіч нагадаў таксама пра супярэчлівасць сітуацыі.

“*Калі, напрыклад, прысуд быў адменены вышэйшай судовай інстанцыяй і чалавек вызваляецца ў сувязі з адсутнасцю складу злачынства, то ў такім выпадку кампенсацыя выплачваецца*, – дадае юрыст. – *А калі вы пэўны час знаходзіліся “пад следствам” у СІЗА і справа да суда не дайшла з-за адсутнасці складу злачынства, то на кампенсацыю не разлічвайце. Атрымліваецца, што любога чалавека можна кінуць за краты на паўгода альбо на год, а затым сказаць, што справа закрыта, і ніхто нікому нічога не павінен. Маўляў, будзьце шчаслівыя, што наогул выпусцілі на волю. Адным словам, поўны абсурд!*”

Алесь СВЯТЛАНІЧ.

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# Ці прыслухаюцца ўлады да праваабаронцаў?

*Учора прадстаўнікі беларускіх праваабарончых арганізацый прадставілі альтэрнатыўны даклад па выкананні Беларуссю палажэнняў Канвенцыі супраць катаванняў.*

27 красавіка ў Жэневе Камітэт ААН супраць катаванняў разгледзіць афіцыйную і альтэрнатыўную справаздачу аб выкананні Беларуссю Канвенцыі супраць катаванняў і іншых відаў абыходжання і пакарання, якія з'яўляюцца жорсткімі, бесчалавечнымі ці прыніжаюць годнасць. Вось некаторыя моманты, якія прагучалі падчас прэзентацыі даклада.

### Сяргей УСЦІНАЎ, кіраўнік грамадзянскай ініцыятывы «Праваабаронцы супраць катаванняў»:

– У беларускім крымінальным заканадаўстве адсутнічае асобны артыкул, які прадугледжвае адказнасць за ўжыванне катаванняў, а таксама нормы аб праве зняволенага на незалежны агляд. Улады публічна не асудзілі катаванні, а чыноўнікі на вышэйшым узроўні даюць зразумець, што катаванні не зусім недапушчальныя. Акрамя таго, трэба зазначыць, што на працягу многіх гадоў Беларусь не згаджаецца на візіт спецдакладчыка ААН па прадухіленні катаванняў.

### Раіса МІХАЙЛОЎСКАЯ, кіраўнік Беларускага дакументацыйнага цэнтра:

– У апошні час мы назіраем працэсы, якія звязаны са стасункамі адвакатуры і дзяржавы. І тут ідзе пэўнае наступленне на адвакатаў, яны знаходзяцца ў прамой залежнасці ад Міністэрства юстыцыі. Натуральна, гэта зніжае ступень абароненасці грамадзян і магчымасці на паўнавартасную абарону.

Нагадаю, што шэсць адвакатаў, якія ў 2011 годзе былі пазбаўлены ліцэнзій за абарону экс-кандыдатаў на выбарах прэзідэнта 2010 года, да гэтага часу не змаглі вярнуць ліцэнзіі і адчуваюць складанасці пры пошуку работы.

Акрамя таго, у 2017 годзе ў Мінскай і Магілёўскай абласцях праводзіліся выбарачныя праверкі і пазачарговая атэстацыя адвакатаў, якія ў тым ліку абаранялі фігурантаў справы «Белага легіёна». Два адвакаты ў выніку былі пазбаўлены ліцэнзій.

Акрамя таго, мы ўзгадалі і пра палітычна матываваныя знікненні людзей, якія былі ў апазіцыі да ўлады.

### Дзмітрый ЧАРНЫХ, прадстаўнік ГА "Беларускі Хельсінкскі камітэт":

– Пытанні прызначэння суддзяў фактычна знаходзяцца ў руках выканаўчай улады. Працэс адбору кандыдатур і прызначэння суддзяў закрыты ад грамадства. Прэзідэнт мае неабмежаваныя магчымасці па звальненні суддзяў, прыцягненні іх да дысцыплінарнай адказнасці. Суды знаходзяцца ў сур'ёзнай залежнасці ад органаў выканаўчай улады.

Мы прапаноўваем стварыць у Беларусі незалежныя органы судзейскага самакіравання з функцыямі адбору, прызначэння, вызвалення ад пасад і прыцягнення да дысцыплінарнай адказнасці суддзяў, замацаваць свабоду і гарантыі іх дзейнасці на заканадаўчым узроўні…

Юрыст-праваабаронца **Павел Сапелка** распавёў, што рэкамендавана стварыць цалкам незалежны орган з правам наведванняў без папярэдніх апавяшчэнняў усіх устаноў пенітэнцыярнай сістэмы, у тым ліку СІЗА, закрытых псіхіятрычных і навучальных устаноў. Сярод прапаноў ёсць і ўвядзенне мараторыя на смяротнае пакаранне.

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

БЕЗ ГАЛСТУКА

# Михаил ПАСТУХОВ: «Жизнь нужно измерять не годами, а совершенными подвигами»

*Завтра, 7 апреля, доктор юридических наук и экс-судья Конституционного суда Михаил Пастухов отмечает свое 60-летие.*

**– Михаил Иванович, накануне своего 55-летия вы мне твердо сказали: все, больше никаких празднований! Может, за эти годы что-то изменилось и 60-летие будете отмечать с цыганским ансамблем?**

– Должностей у меня нет, так что банкетов и крупных гуляний с приглашением артистов и VIP-персон не будет. В узком семейном кругу соберемся, с друзьями. Поговорим за жизнь. А вообще, я с возрастом понял, что нужно радоваться тому, что есть…

**– Ага, и каждый прожитый день ценить. Кстати, а как вы к своему возрасту относитесь? Не ощущаете, что дряхлеете, мозги хуже соображают?**

– Мне кажется, я с каждым годом становлюсь все большим оптимистом. Пришел к выводу, что совершенно не важно, сколько тебе лет. Важно, что ты сделал, к чему стремишься, что после себя оставишь. Жизнь нужно измерять не годами, а совершенными подвигами.

**– Неужели вы, как барон Мюнхгаузен, составляете расписание своих подвигов на годы вперед?**

– Мне кажется, в Беларуси вообще сложно что-то планировать, а подвиги – уж тем более. Но тем не менее я предпочитаю планировать будущее, и у меня есть задумки, которые хотелось бы реализовать. Прежде всего хотелось бы осуществить в Беларуси судебно-правовую реформу, которую так и не удалось совершить в девяностые годы прошлого века…

**– Ну это такой абстрактный глобальный план…**

– В общем-то, верно вы меня приземлили… Если говорить о более простых вещах, то, наверное, хотел бы издать книгу. В частности, я подготовил брошюру «20 лет в одной лодке с «Народной Волей», где собрал все свои газетные публикации, но пока ее не издал. Во-первых, недостаточно финансов, а во-вторых, наверное, слишком узкий круг читателей это издание заинтересует. Есть у меня планы и по поводу научных публикаций, но опять же: издать книгу в Беларуси мне будет чрезвычайно сложно – власть не создает для этого никаких условий, и взгляды мои не совсем укладываются в официальную идеологию…

**– Наивно было бы полагать, что вам предложат государственный грант на издание воспоминаний о работе в Конституционном суде. Но другие же как-то издают книги – и мемуары, и публицистику. И режим не мешает.**

– Я тоже издал подборку своих статей, которые выходили в «Свободных новостях». Раздал своим знакомым, друзьям. Но до массового читателя, до широкой публики это не доходит.

**– Для публики нужно любовные романы писать!**

– Наверное… Мне кажется, у нас в обществе вообще нет интереса к событиям прошлого, к людям, которые были свидетелями или участниками каких-то важных исторических событий. Поэтому тратить силы впустую мне не хочется. Для меня главная задача, чтобы Беларусь была современной европейской страной, чтобы общество было у нас свободным и демократическим.

**– То есть вы сначала, как в той песне, раньше думаете о родине…**

– Я о себе тоже думаю, но после того, как меня незаконно освободили от должности судьи Конституционного суда, мне не удалось добиться новых карьерных высот. Сейчас работаю в частном вузе профессором кафедры…

**– До пенсии вам еще пару лет…**

– Да. Хотя я считаю, что решать вопросы повышения пенсионного возраста указом президента – это неправильно.

**– Но у вас же, если не ошибаюсь, погоны подполковника КГБ. Вы разве не получаете специальную пенсию?**

– У меня 9,5 года чистой выслуги. Но меня списали с военной службы, не дав возможности дальше продолжить работу. И эти годы службы, получается, выброшены на ветер, потому что военная служба идет в зачет только с 10 лет выслуги. Называется, «повезло»… Хотя я считаю, что учитываться должен даже один день, отработанный на благо родины.

**– Прочитала ваше интервью в «Свободных новостях» и с удивлением для себя отметила, что вы диплом доктора юридических наук получали в России. А почему?**

– В 1993 году, когда я защищал диссертацию, был создан российско-белорусский докторский совет. Он просуществовал около года. И тогда посчитали, что более авторитетно и правильно выдать дипломы именно российской ВАК.

**– Михаил Иванович, вы почти в каждом своем интервью говорите, что для вас дело чести вернуться на должность судьи Конституционного суда. Не могу понять: это такой тонкий прикол или вы действительно в это искренне верите?**

– Конечно, верю! И считаю, что со временем у нас должна быть восстановлена деятельность легитимного Верховного Совета, восстановлена Конституция 1994 года. Так должно быть по закону и по справедливости.

**– Какой подарок вам хотелось бы получить к своему юбилею? Что вас больше порадовало бы – полугодовая подписка на «Народную Волю» или конверт с крупной купюрой?**

– Подарки для меня не представляют никакой ценности. Я уже давно ничего не жду. Подарок – что меня помнят. Внимание – это всегда очень приятно. И пусть у меня сегодня нет должностей – я ценю то, что есть…

**– Вы все время про должности и посты говорите с таким большим сожалением… А зачем они вам? Высокая государственная должность – это серьезная нагрузка, отсутствие свободы, личной жизни и прочих приятных моментов, которые, как мне кажется, именно с возрастом и начинаешь особенно ценить…**

– Для меня дело принципа – вернуться в Конституционный суд. Пусть через пять, десять лет…

**– Так сколько ж вам тогда уже годков-то будет! Не молодеете ведь!**

– До 70 лет можно быть судьей. И даже если у меня будет возможность восстановить свой статус судьи Конституционного суда лишь на один день – я это сделаю.

**– Интересно, а внуки у вас есть?**

– Внучке скоро год будет. Вокруг меня одни женщины – две дочери, жена…

**– О внуке мечтаете?**

– Мне кажется, иллюзия о том, что мечты сбываются, проходит где-то после 40 лет. Остается лишь проза жизни, планы и надежда. Надежда на то, что все будет хорошо…

**Марина КОКТЫШ.**

НА СВЯЗИ – КИЕВ

# НЕ СОТВОРИ СЕБЕ КУМИРА,
## или Как подставить президента

*Ощущение дежавю. Не прошло и двух лет (кто-то даже подсчитал более точно – 666 дней), и Надежда Савченко опять в тюрьме. Только на этот раз не в российской – в украинской. Героя Украины задержали по подозрению в организации госпереворота и терактов. Снова голодовка, опять ее сестра Вера обращается к президенту США. История развивается по спирали?*

Еще совсем недавно вся Украина неистово требовала освобождения «нашей Нади» из российской тюрьмы. Украинские политики апеллировали к международному сообществу. За Надю хлопотали лидеры европейских государств и США. Президент Украины Петр Порошенко лично звонил Владимиру Путину. В обмен на Надю Украина отдала двух захваченных в бою российских диверсантов. Персональный президентский самолет забирал Савченко из России, по прилете Петр Порошенко принял Надю и вручил ей звезду Героя Украины.

А сейчас такой конфуз: Надежда Савченко – предатель Украины. Как ни странно, те украинские политики, кто громче всех ратовал за освобождение Савченко из российской тюрьмы, сейчас с таким же остервенением требуют упечь ее в украинскую. Парадокс?

Как получилось, что Петр Порошенко дважды умудрился наступить на «грабли Савченко»? Первый раз, хоть и с большой натяжкой, еще можно попробовать принять в качестве оправдания «своих в застенках врага не бросаем». Не совсем понятно только, зачем было из Надежды Савченко с ее-то бэкграундом так поспешно делать «героя». От людей несведущих, занятых повседневными делами и привыкших потреблять предоставленную кем-то информацию, еще можно было бы принять оправдание: мол, мы не знали, что с Надей так получится. Но президент со своим окружением! Правда, после четырех лет президентства Порошенко возникает вопрос: свое ли оно, окружение?

Вернемся к истокам. Для активных людей, постоянно следящих за новостями в Украине, Надежда Савченко стала известна еще до того, как она оказалась в плену в июне 2014 года. За несколько недель до этого события в украинской прессе и соцсетях была организована и проведена достаточно хорошо продуманная промокампания, рассказывающая о выдающейся украинской летчице Надежде Савченко. Профессионально сделанная фотосессия и интервью вкупе с интересно поданной историей о защитнице Отечества легла в предварительно взрыхленную почву. Правда, потом выяснилось, что и не летчица она вовсе, но тренд был запущен.

Кто же такая Надежда Савченко? Начинала она свою скромную политическую карьеру с молодежной организации, близкой к «злому гению», «серому кардиналу» украинской политики Виктору Медведчуку, известному куму президента Владимира Путина. Пыталась учиться на факультете журналистики – неудачно. После этого завербовалась в армию, и тут ее карьера пошла в рост. Попала в престижный контрактный батальон аэромобильных войск, оттуда на шесть месяцев в миротворческий контингент в Ирак, а после, по личному распоряжению министра обороны, была зачислена в Харьковский национальный университет Воздушных Сил.

Во время службы, еще с Ирака имела массу проблем с дисциплиной. Раз за разом попадала в мутные истории, проявила себя как неспособный к выполнению служебных боевых задач боец. Дважды за профнепригодность исключалась из летного университета. Но благодаря неким высоким покровителям ее восстанавливали, только по итогу уже не в качестве летчика, а штурмана. После окончания университета к самолетам ее не допустили, определили в качестве штурмана-оператора ударного вертолета МИ-24. В этой должности она служила, пока в 2014 году не грянула война.

После того как в Донбассе у российских гибридных войск появились на вооружении переносные зенитно-ракетные комплексы, жизнь военных летчиков стала и опасна, и трудна. Если собьют, то уцелеть и попасть в плен достаточно сложно. В самый разгар боев Надежда Савченко внезапно исчезает из расположения своей части якобы в отпуск. По неофициальной версии, она фактически дезертирует, но при этом появляется в батальоне «Айдар».

Пробыв совсем немного на передовой, нарушив приказ командира, самовольно покидает расположение батальона. Не совсем понятно зачем: то ли пошла за спиртным, то ли еще с какой-то только ей известной целью. Попадает в плен. На помощь ей отправляют подразделение бойцов, которые, нарвавшись на засаду, погибают. А Надежду Савченко транзитом через захваченный Луганск отправляют в Россию, где с позволения российской власти фактически организуют для нее мощную рекламную кампанию, какой не было ни у кого из украинских узников.

Известность – это палка о двух концах. Участники противостояния на Майдане вспомнили Надежду Савченко. В сети появилось видео событий января 2014 года, где она была замечена во время активных столкновений протестующих со спецподразделением «Беркут» на улице Грушевского в Киеве. Очевидцы характеризуют ее поведение там как действия провокатора, подосланного со стороны власти. Но их уже никто не слушал, так же как и ее сослуживцев по Ираку, военному университету и батальону «Айдар». Из нее достаточно быстро и профессионально слепили образ народной героини, узницы застенков путинского режима.

Было ли известно про темную сторону жизни «героини» в СБУ? Безусловно, там знали, вся объективная информация у них была. Спрашивается: почему Василий Сергеевич Грицак, протеже Петра Порошенко в должности главы СБУ, не уберег своего патрона от опрометчивого шага? Почему сразу после освобождения из плена компетентные люди не взяли паузу, не ограничились стандартной процедурой, не изолировали Савченко в «санатории» под плотной опекой контрразведки, а сразу потащили к президенту вручать Звезду Героя Украины?

Надежда Савченко отблагодарила всех, не откладывая в долгий ящик. Сразу после освобождения объявила всю украинскую власть виновной в развязывании гражданской войны в Украине. Из ее уст полились известные всем традиционные тезисы российской пропаганды. Себя же Надежда Савченко видела чуть ли не мессией, по меньшей мере – следующим президентом Украины. Это были первые «грабли Надежды Савченко» для Порошенко. Отрезвление в украинском обществе произошло очень быстро.

После столь неожиданных заявлений Савченко ее популярность резко пошла на убыль. Плюс ко всему из-за личных интеллектуальных ограничений генерировать идеи, позволяющие ей остаться в позитивном тренде, она не смогла. Ей грозило политическое забвение. И тут на горизонте показался еще один давний соратник Медведчука – Владимир Рубан. Они сошлись на теме «миротворцев», освободителей украинских военнопленных. Благо с той стороны им всегда в этом могут подыграть. Савченко зачастила на оккупированные территории, что позволило ей снова попасть в информационную повестку украинских СМИ.

Надо отдать должное украинским спецслужбам – этот канал «сладкой парочке» они быстро перекрыли. Ввели запрет Савченко и Рубану выезжать на оккупированные территории. О «миротворцах» вскоре практически все забыли. Они слонялись, как неприкаянные, по правительственному кварталу в Киеве, пока пьянящий воздух свободы не навел их на мысль о заговоре.

Пока трудно сказать, кто надоумил двух загнанных обстоятельствами людей, вынашивающих кровавые планы мести, находящихся в плотной разработке спецслужб Украины, начать вербовать сторонников и исполнителей военного переворота. Игра началась. Одних граблей оказалось мало. Решили наступить на вторые. Остается вопрос: для украинской власти и спецслужб Рубан и Савченко – это пойманная рыба или все же наживка? Об этом – в последующих номерах «Народной Воли».

**Александр ЦЫНКЕВИЧ, собственный корреспондент газеты «Народная Воля» в Украине.**

СІТУАЦЫЯ

# Міхаіл Жамчужны «прапісаўся» ў штрафным ізалятары

*Са жніўня 2017 года ён пабываў у ШІЗА Горацкай калоніі ўжо больш за 20 разоў.*

svaboda.org (RFE/RL)

Нагадаем, праблемы ў праваабаронцы **Міхаіла Жамчужнага** пачаліся якраз з часу пераводу яго ў Горацкую калонію №9, дзе для яго былі створаны зневажальныя ўмовы. Фармальнымі падставамі для пакаранняў адміністрацыя называла нязменныя адмовы Жамчужнага пераходзіць у атрад, сфарміраваны з асуджаных "з нізкім статусам". Міхаіл сапраўды адмаўляўся, аднак перад кожным накіраваннем у ШІЗА абгрунтоўваў свае адмовы і прасіў адміністрацыю прадаставіць яму бяспечныя ўмовы.

Дарэчы, Міхаіл Жамчужны звяртаўся ў Дэпартамент выканання пакаранняў з просьбай аб пераводзе яго для адбыцця пакарання ў іншую калонію. Аднак атрымаў адказ, што пытанне аб пераводзе ў іншае месца вырашае начальнік калоніі.

*"Адміністрацыя калоніі, па сутнасці, адмовілася вырашыць праблему і ўсяляк стараецца ўцягнуць Міхаіла ў канфлікт з іншымі асуджанымі,* – распавёў праваабаронца **Андрэй Бандарэнка.** *– На сённяшні дзень ён напісаў ужо восем заяў аб пераводзе ў бяспечнае месца, і пры жаданні кіраўніцтва калоніі магло б "разруліць" сітуацыю. Але пакуль не захацела. Гэта прамое парушэнне не толькі патрабаванняў Крымінальна-выканаўчага кодэкса Беларусі, але і міжнародных дамоў, якія забараняюць катаванні, жорсткае, бесчалавечнае абыходжанне са зняволенымі".*

**Віктар ШПАК.**

РАКУРС

# Участак у Драздах-2 прадаецца амаль за 350 тысяч долараў

*За два гады зямля ў “залатым квартале” Мінска значна патаннела.*


Ілюстрацыйнае фота

Раён “Веснінка” багаты на жыхароў з ліку чыноўнікаў і знакамітасцяў. Актыўна забудоўвацца ён пачаў у 2013 годзе. Хаця яшчэ ў 2007-м дазвол на будаўніцтва тут, на беразе вадасховішча Дразд , атрымалі кіраўнік «Амкадора», вядомы бізнесмен **Аляксандр Шакуцін**, трэнер па тэнісе **Сяргей Цяцерын**, біятланіст **Сяргей Булыгін**. На першай берагавой лініі мае шыкоўны катэдж **Вікторыя Азаранка.**

У 2011 годзе па рашэнні Мінгарвыканкама і ў адпаведнасці з рашэннем прэзідэнта ўчасткі ў Веснінцы атрымала цэлая група чыноўнікаў: старшыня КДБ **Валерый Вакульчык**, міністр унутраных спраў **Ігар Шуневіч**, намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта **Валерый Міцкевіч**, сенатар і былы міністр сацыяльнай абароны **Мар’яна Шчоткіна**, былы міністр адукацыі **Сяргей Маскевіч,** глава Банка развіцця **Сяргей Румас** – усіх і не пералічыць. Таксама ў гэтую кампанію трапілі і не чыноўнікі – кіраўнік РНПЦ трансплантацыі органаў і тканак **Алег Румо**, спявак, мастацкі кіраўнік “Сяброў” **Анатоль Ярмоленка**, былы старшыня Белтэлерадыёкампаніі **Генадзь Давыдзька,** экс-кіраўнік тэлеканала СТБ **Юрый Казіятка** і іншыя.

Але жыць там могуць і звычайныя беларусы. Калі, вядома, маюць грошы, бо пад асаблівае распараджэнне А.Лукашэнкі не падпадаюць.

Купіць участак або дом у Драздах-2 можна хоць зараз.

Так, ужо не адзін месяц прадаецца ўчастак у завулку Веснінка, побач з адкрытым нядаўна Палацам мастацкай гімнастыкі. Плошча ўчастка – 13 сотак, пабудоў на ім няма, захаваўся толькі падмурак былой хаты. Гаспадыня просіць за зямлю 688 тысяч 380 рублёў. Гэта амаль 350 тысяч долараў. Хаця яшчэ два гады таму за аналагічныя ўчасткі ў Веснінцы прасілі значна больш – 500–600 тысяч долараў.

Можна купіць у Драздах-2 і ўжо гатовы дом, толькі без унутранага аздаблення, што, натуральна, патрабуе нямалых дадатковых укладанняў. Так, на вуліцы Веснінка прадаюцца адразу два дамы. Адзін невялікі, плошчай 222 квадратныя метры, за 450 тысяч долараў. За дом плошчай 519 квадратных метраў, абліцаваны цэглай ручной фармоўкі, але без унутранага аздаблення просяць 1,63 мільёна рублёў, або больш за 800 тысяч долараў.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ЖЫЎ-БЫЎ ЧАЛАВЕК

# І ЯГО СЭРЦА СПЫНІЛАСЯ…

*Памяці Аляксандра Сцяпанавіча ВАЙТОВІЧА*

*«Хочацца верыць, што ў самыя бліжэйшыя часы ўсё зменіцца, наша краіна будзе цывілізаванай і дэмакратычнай дзяржавай. Спадзяюся, што мае дзеці, унукі, праўнукі будуць жыць вольна, шчасліва, заможна! Ад усёй душы я ім гэтага жадаю. Любіце сваю Радзіму, змагайцеся за лепшую будучыню!»* – гэтыя словы належаць **Аляксандру Сцяпанавічу Вайтовічу**, шчыраму прыхільніку «Народнай Волі». Нават у самыя цяжкія для яго і для газеты часы ён умудраўся не прапусціць ніводнага выхаду выдання, адшукваючы нумары ў знаёмых і сяброў. На пачатку лютага ён, бянтэжачыся, распавёў мне пра сваё далейшае жаданне – наведаць рэдакцыю, сустрэцца з людзьмі, перакананні якіх так сугучны яго думкам і адчуванням, і падзякаваць ім. Мы дамовіліся: разам завітаем у рэдакцыю напярэдадні Вялікадня. Але… Раптоўна яго жыццё абарвалася.


А.С. Вайтовіч на Брайтан-Біч (узбярэжжа Атлантычнага акіяна).

…Аляксандр Сцяпанавіч – з сям’і сельскіх настаўнікаў. Такіх у нас называюць «тыповы прадстаўнік вясковай интэлігенцыі». Прадстаўнік – так, але зусім не тыповы. Яго жыццёвы шлях можа служыць прыкладам для многіх маладых людзей, якія шчыра звязалі сябе з самай высакароднай прафесіяй – сельскага настаўніка. Скончыўшы геафак БДУ, ён некалькі гадоў быў дырэктарам школы ў Бялыніцкім раёне, працаваў завучам у мінскіх школах. Яго разуменне справядлівасці, чэснасці, боль за родную краіну вымушалі здзейсняць учынкі, рашыцца на якія ў тыя часы былі здольны нямногія.

1988 год. 2 лістапада адбыўся адзін з першых маштабных маршаў у Курапаты і, бадай, адзін з першых выпадкаў жорсткай рэакцыі з боку ўлад. *«Так я ўпершыню ўбачыў не па тэлебачанні, што такое разгон мірнай деманстрацыі»,* – успамінаў Аляксандр Сцяпанавіч. Гэта настолькі ўзрушыла яго, што ён рашыўся на адчайны ўчынак: выступіць у Доме афіцэраў на рэспубліканскай нарадзе па патрыятычным выхаванні моладзі ў прысутнасці высокага камуністычнага кіраўніцтва, генералітэта, маладых камсамольскіх падпявал рэжыму і адкрыта сказаць: нельга балбатаць аб патрыятычным выхаванні, калі ў нас творыцца такое, што мы бачылі ў Курапатах. Пазней ён аб гэтым напіша ў кнізе ўспамінаў пад назвай «Такім яно было…», выдадзенай за ўласны кошт.

Рэакцыя ўлад была імгненнай: пад свіст і выкрыкі Вайтовіча сілай сапхнулі з трыбуны, у аддзеле адукацыі Мінгарвыканкама наладзілі сапраўднае судзілішча. *«Білі так, як яшчэ ніколі не білі: па гонары і годнасці, па блізкіх і родных, ставілі пад сумненне маю прафесійную годнасць, пагражалі»*, – распавёў Аляксандр Сцяпанавіч у сваёй кнізе.

Стала зразумела, што далейшая педагагічная дзейнасць будзе практычна немагчымай. Але Вайтовіч знайшоў у сабе маральныя і фізічныя сілы працаваць яшчэ 20 (!) гадоў простым настаўнікам геаграфіі, кіраўніком турыстычных секцый Мінскага гарадскога дзіцяча-юнацкага цэнтра турызму, шмат часу праводзіў у паходах па Беларусі і за яе межамі. Аляксандр Сцяпанавіч горача любіў прыроду роднай краіны і шчодра перадаваў гэтую любоў моладзі.

У 2008 годзе вырашыў перайсці да зусім іншага ладу жыцця – заняцца будаўніцтвам: трэба было дапамагаць сям’і. Тут спатрэбіўся ўвесь папярэдні жыццёвы досвед: будатрады падчас вучобы ў БДУ, шматлікія дырэктарскія клопаты ў сельскай школе, гаспадарчая дзейнасць у мінскіх школах, удзел і дапамога ў будаўніцтве дамоў і лецішчаў для блізкіх і сяброў. І, будучы акуратным і таленавітым чалавекам, ён вельмі хутка дасягнуў поспехаў у адным з найбольш складаных відаў будаўнічых работ – аддзелцы кафляй. Ён не шукаў работу і не займаўся рэкламай – яго шукалі і перадавалі “з рук у рукі”, па знаёмстве. Многія вельмі паважаныя і “няпростыя” грамадзяне Мінска доўга будуць узгадваць Аляксандра Сцяпанавіча, гледзячы на печы і каміны, кухні і ванныя пакоі, афармленыя з вялікім густам і майстэрствам.

Сваімі рукамі ён пабудаваў дачу ў Тальцы, дзе жонка Ірына вырошчвае мноства кветак. Сын адкрыў невялікую фірму. Дачка вучыцца ў Англіі. Можна дазволіць сабе паездкі за мяжу, ёсць магчымасць займацца паляваннем і рыбалкай. Жыві і атрымлівай асалоду напоўніцу…

Але тут грымнуў гром! У кастрычніку 2010 года быў пастаўлены дыягназ: цяжкі парок сэрца. Складаная аперацыя і інваліднасць. Так пачаўся зваротны адлік…

Аляксандру Сцяпанавічу было 33 гады, калі ён узышоў на трыбуну Дома афіцэраў, каб сказаць ПРАЎДУ. Пасля гэтага яшчэ 30 гадоў нёс цяжкі крыж. Крыж, які на яго ўсклалі ўлады, які павінен быў яго раздушыць, знішчыць. Але Вайтовіч усё вытрымаў, спакойна і з вялікай годнасцю прайшоў шлях, што быў наканаваны лёсам.

Ён сышоў прыгожа, па-мужчынску… Быў на зімовай рыбалцы, злавіў вялізнага шчупака, ішоў па лёдзе да сяброў, радасны і шчаслівы, перапоўнены эмоцыямі. У такія хвіліны захліствае хваля адрэналіну, і яго надарванае сэрца спынілася…

**Юрый КОНАНАЎ.**

ЗЕМЛЯКИ

# Сергей ВОЛЧКОВ: «Помогаю жене при любой возможности…»

*18 апреля белорус Сергей Волчков выступит с сольным концертом в Кремле.*

*Уроженец Быхова, который на днях отметил свое 30-летие, признался, что мечтает спеть на сцене итальянского амфитеатра Арена ди Верона, где выступают мировые знаменитости.*

Сергей Волчков проснулся знаменитым после победы в российском конкурсе «Голос». Сейчас он колесит с концертами по России. В Беларуси концерты Волчкова проходят редко. Как говорит он сам – не приглашают.

*«Я никогда не стесняюсь говорить, что родом из Быхова*, – говорит журналистам Сергей Волчков. *– Однажды, представляя меня во время концерта, Иосиф Кобзон сказал: «Сейчас на эту сцену выйдет человек, который родился в Беларуси, а прославился в России». Так и есть. И поскольку я ощущаю себя белорусом и люблю свою страну, мне бывает даже не обидно, а больно оттого, что в Беларуси меня считают чужаком, хотя у меня и гражданство белорусское. В моей гастрольной деятельности всего 0,01 процента концертов в Беларуси. Я с удовольствием выступил бы в областных центрах, малых городах, но не приглашают…»*

В конце прошлого года у артиста родилась вторая дочь. Но он умудряется находить компромисс между семьей и работой.

*«Я зарабатываю деньги, но стараюсь проводить с семьей как можно больше времени,* – рассказал артист на днях starhit.ru. – *Не хочу быть воскресным папой. Помогаю жене при любой возможности. Сегодня утром, например, собирал дочку в детский сад, отвел ее туда, встретился с мамами, которые пошутили: «Воспитывать детей – это не песни петь». Да это намного тяжелее!»*

Со своей супругой Сергей познакомился в храме.

*«Я заметил Наташу, мы были совершенно не знакомы. А мне на тот момент очень сильно хотелось семьи, тепла, и вообще хотел уже стать папой. Я ждал конца службы, чтобы подойти и познакомиться…»*

Кстати, мама Волчкова поначалу не очень радовалась музыкальной карьере сына – она считала, что музыкой заработать невозможно. А Сергей с самого детства старался зарабатывать сам.

*«С 13 лет я уже зарабатывал деньги, а в 17–18 ездил на юг за свой счет. Работал, занимался компьютерами. Видел, как тяжело было моим родителям, когда они первые два года ежемесячно присылали в Москву, где я учился, по 10 тысяч рублей. По тем временам это была зарплата моего папы. Получается, что они отдавали мне одну зарплату, а на другую существовали. Но они помогали, за что я им безмерно благодарен. И стараюсь сегодня помогать им во всем. У меня была мечта – всей семьей поехать на море. Родители до моей победы в проекте «Голос» не были там 26 лет. Сейчас уже четыре года подряд отдыхаем все вместе…»*

Сергей Волчков ведет здоровый образ жизни. Он понимает: при его образе жизни хорошая физическая форма – жизненная необходимость.

*«Каждую неделю хожу в баню. Она укрепляет иммунитет. Второе, на что почти не хватает времени, но люблю, – это рыбалка. Третье – путешествия. Я очень люблю ездить, узнавать, смотреть. Четвертое – беговая дорожка. Серьезные нагрузки мне запрещены, так как есть травма, которая не позволяет заниматься гантелями. Что касается кардионагрузок, то это просто необходимо, потому что на гастролях не так много двигаешься. Только поёшь, спишь, ешь и набираешь вес. А надо быть постоянно в форме. В прошлых трех сезонах мы дали 170 сольных концертов по стране. И этот тур еще продолжается. В планах – выступить в Италии. Уже готова программа, которая состоит не только из итальянских, но и из отечественных песен, которые знает весь мир. «Подмосковных вечеров», например. На 2018-й у нас уже запланированы 52 сольных концерта…»*



**Даша ПАВЛОВСКАЯ.**

**На фото: Сергей Волчков и Михаил Финберг.**

ХУДСОВЕТ

# Айвазовский на бис

Впервые в своей истории Национальный художественный музей повторяет выставку 2017 года по многочисленным просьбам посетителей. И этой чести удостоился не кто иной, как маринист Иван Айвазовский.

Художник-виртуоз, романтик, философ, Айвазовский не просто писал и любил море. Иван Константинович исследовал проблемы кризисов, катаклизмов, тайн мироздания.

Хотя картины Айвазовского всегда очень хорошо продавались, в профессиональной среде к его творчеству порой относились с некоторым снобизмом. Так продолжалось практически целый век, когда картины художника воспринимались многими искусствоведами и коллекционерами довольно снисходительно. Взлет интереса начался в XXI веке. К 200-летию Ивана Айвазовского 200 полотен выставила Третьяковская галерея. И вдруг в Москве – зрительский бум! Наше собрание, конечно, сотен картин Айвазовского не имеет, но Национальный художественный музей открыл свою выставку в более широком аспекте – «Айвазовский и маринисты». И в Минске Айвазовский имел огромный успех. И теперь эта выставка повторяется вновь – на бис. Среди картин снова будет «Буря на Азовском море в апреле 1886 года» – о последних минутах жизни тонущего матроса. Трагедия завораживает?

**Виктория ДРОЗД.**

ПАМЯЦЬ

# «Як жыць, дык жыць для Беларусі, а без яе – зусім не жыць»

Пад такой назвай сёння ў Мінску на “Арт Сядзібе” (пр.Машэрава, 18) пройдзе вечарына памяці вялікай беларускай паэткі і патрыёткі, генеральнага сакратара Рады БНР **Ларысы Геніюш**. Яе зямны шлях закончыўся 7 красавіка 1983 года, роўна трыццаць пяць гадоў таму. Прайшоўшы праз сталінскі ГУЛАГ, яна засталася вернай ідэалам незалежнай Беларусі, не прыняла савецкага грамадзянства і да апошніх дзён жыла ў Зэльве, дзе ў Свята-Траецкай царкве створаны прысвечаны ёй музей.

Пачатак вечарыны ў 19.00. Уваход вольны, запрашаюцца ўсе жадаючыя.



**На здымку: Ларыса Геніюш і Адам Мальдзіс. 1968 год.**

ЧАСТНАЯ ЖИЗНЬ

# Екатерина ДОМАНЬКОВА: «Трое детей – моя счастливая реальность!»

*Всемирно известная модель из Беларуси в конце марта стала мамой в третий раз. Она признается, что эта беременность далась ей не так легко, как две предыдущие.*

«Сегодня с улыбкой говорю о третьей беременности, в которой была не похожа на саму себя, не нравилась себе, в которой я ныла и уставала, – *рассказывает Доманькова.* – Я больше не беременна, отлично себя чувствую, а значит, могу с иронией отнестись к тому состоянию, в котором пребывала какое-то время.

Не подумайте, что все было плохо. Плохо не было, было тяжело. Моей средней (мамочки, она уже средняя!) дочери Иванке было всего одиннадцать месяцев, когда я забеременела в третий раз. Конечно, организм не успел восстановиться в нужной степени. Но, помимо этого, свое состояние я связываю с непривычным для беременности сезоном. Маруся и Иванка родились в конце лета, и в то время, когда должно было становиться тяжелее, мне становилось легче. Начинал расти живот – выглядывало солнце, заряжая меня силами, которых хватало на семью, на спорт, на работу. Начинали болеть ноги – было желание пройтись, проплыть, да хоть и пробежать (от этих порывов я, правда, себя останавливала). В третий раз силы убывали пропорционально сокращению светового дня и стремительному погружению в осенне-зимний мрак. До недели двадцатой ко мне с незавидной периодичностью приставала всякая простуда, несерьезная, но в значительной степени влияющая одновременно на физическое и эмоциональное состояние. Возможность улететь в теплые края я не рассматривала. Мне не хотелось перелетов, хотя две предыдущие беременности они меня даже прельщали…»

*За беременность супермодель набрала 12 килограммов. После родов из них осталось семь.*

«Я не ставлю себе цели похудеть в кратчайшие сроки, – *говорит Екатерина.* – Самое главное для меня – сохранить грудное вскармливание, ведь в прошлый раз мне пришлось бороться за каждую каплю молока».

*Екатерина Доманькова переживала, сможет ли справиться с тремя детьми.*

«Не буду лукавить: на протяжении беременности меня нередко посещали тревожные настроения, – *откровенно рассказывает она.* – Я беспокоилась о том, смогу ли справиться с ролью многодетной мамы, получится ли уделять внимание старшим детям в достаточном объеме, находить в новом графике время, чтобы побыть вдвоем с мужем, успевать хотя бы немного работать, не забывать о себе. Иногда эти страхи заставляли меня ронять слезы. Они не имели ничего общего с радостью ожидания встречи, часть из них были страхами перфекционистки, часть – гормональными тревогами. Спустя неделю после родов мне уже не страшно.

Трое детей – моя счастливая реальность. Мне нужно только правильно ее организовать. Сейчас мне помогают муж и свекровь. Хозяйством занимается помощница. Я провожу все время с детьми, кажется, даже больше, чем раньше. Декрет во всей красе!

Мое состояние после третьих родов гораздо более стабильное, чем после рождения Иванки. Тогда я недолго, но регулярно плакала без повода и чувствовала себя ужасно уставшей. Это было совсем иное, незнакомое мне самочувствие. Ведь, родив Марусю, я просыпалась посреди ночи и одухотворенная шла смотреть на звезды. Ближайшие пару лет, чувствую, заставить меня вылезти из-под одеяла, если уж мне удалось туда забраться, вряд ли у кого-либо получится… Но я знаю, что буду улыбаться каждому новому дню, благодарить за чудеса и генерировать достаточно сил, чтобы дарить их близким с огромным удовольствием! Ах да… еще иногда запираться в туалете в поисках тишины и покоя!»

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**



ИЗ ЛИЧНОГО ДЕЛА

*Екатерина Доманькова родилась 19 сентября 1988 года в Минске. Училась в Минской политехнической гимназии №6.*

*В 2006 году она победила на конкурсе “Супермодель мира” в Нью-Йорке. Именно с него начинали свою карьеру Шарон Стоун, Брук Шилдс, Ким Бэйсингер и Наоми Кэмпбелл.*

*В 2009 году вышла замуж за Антона Зингаревича – крупного российского бизнесмена, владельца инвестиционной компании. Познакомились они в социальной сети “Одноклассники”, где Антон увидел однажды фотографии белорусской красавицы. У Екатерины и Антона есть дочь Маруся. В 2015 году Антон и Катя официально развелись.*

*Летом 2010-го Доманькова подписала контракт с всемирно известным брендом женского белья Victoria’s Secret.*

*В августе 2016 года Екатерина рассказала в Instagram о рождении второй дочки: «Мы тебя очень ждали, малышка Иванка».*

*Сообщалось, что отец новорожденной – успешный белорусский архитектор.*

ДИПКУРЬЕР

## Мартиньш ВИРСИС,
### Чрезвычайный и Полномочный Посол Латвии в Республике Беларусь:

# «Если не говорить об исторических ранах, они будут продолжать кровоточить…»

*Мартиньш Вирсис – опытный дипломат. Был главой миссии Латвии в Австрии, Швейцарии, Венгрии, Словении, Словакии, Германии, Кувейте, Литве; занимал посты первого заместителя министра и государственного секретаря Министерства иностранных дел; избирался депутатом парламента.*

*Но нас интересует не только посол, но и профессиональный историк доктор Мартиньш Вирсис. О связи прошлого, настоящего и будущего с ним беседует обозреватель «Народной Воли» **Александр Федута.***



**– 2018 год – год политических юбилеев на всем пространстве бывшей Российской империи. Падение императорской власти позволило целому ряду народов создать свои государства. Мы встречаемся в момент, когда отмечается столетие Белорусской Народной Республики, несколько позже будем праздновать столетие латвийской государственности. С вашей точки зрения, что прошедшие 100 лет дали Латвии?**

– Процесс начался уже в конце 1917 года. У вас – Всебелорусский съезд, у нас тогда также появились мысли о том, как развиваться дальше. Перед Латвией в тот период стояли три альтернативы, которые могли осуществиться, но осуществилась только одна. Это очень короткий период так называемого Исколата, который образовали остатки неоккупированной части Латвии: там были созданы Советы, которые выступали за самоопределение в составе России, и оттуда пошли красные латышские стрелки. Прибалтийские немцы объявили о создании Балтийского герцогства, ориентированного на Германию. И, наконец, Латвийская Республика.

Что дал нам 1918 год? Сознание любого латыша, что он принадлежит своему государству. И не только латыша. Я разговаривал со многими наследниками прибалтийских немцев, и один из них мне сказал: знаете, в 1939–1940 годах мне было 16 лет, и я был молодым, глупым, манипулируемым, верил в фюрера и все такое, но когда мы были вынуждены уехать из Латвии, с возрастом я понял, что мы потеряли свою Родину. Так что в некотором смысле сейчас немецко-балтийская диаспора в Германии более пролатвийская, чем латвийская диаспора. Она понимает, что возврата нет, а у латышей, кто по разным причинам выехал из Латвии, есть куда возвращаться.

**– Вы упомянули красных латышских стрелков. Время от времени, когда встают вопросы, что Россия должна каким-то образом оплатить исторический долг за пакт Молотова–Риббентропа, читаешь, что Латвия должна расплатиться за красных латышских стрелков, за этнических латышей, которые работали в ОГПУ, НКВД.**

– История такова, какова она есть. Для меня нет вопросов насчет роли двухсот красных латышских стрелков: именно столько их охраняло Ленина. Но, разумеется, были еще люди, которые активно участвовали в становлении большевистского режима, хотя национальность не играет никакой роли. Они все виновны. Да, они были палачами, жестокими исполнителями, и для меня как историка и просто человека это не проблема – просить прощения за их действия. Но в политическом контексте нельзя сравнивать пакт Молотова–Риббентропа и деяния, которые совершались красными латышскими стрелками. Это разные сферы, которые смешивать не надо. Мы, наверное, должны у украинцев и других народов просить прощения за то, что товарищ Мартиньш Лацис оставил кровавый след и по всей Украине, и по Центральной Азии и так далее. Также должен извиниться, что я уже публично делал, и за Вильгельма Кнорина, который, как мы знаем, не только писал краткий курс истории большевистской партии. Но вопрос вы поставили правильно: эти раны, если о них не говорить, остаются и продолжают кровоточить, и мы должны говорить обо всем.

**– Есть проблемы, которые нужно проговаривать с теми народами и государствами, которые входили в состав бывшего Советского Союза. Есть ли сложные вопросы внутри Европейского Союза, которые точно так же обсуждает Латвия?**

– В принципе, как и у любого образования, у Европейского Союза есть свои проблемы. Взять хотя бы французско-германские отношения. Но так как Европейский Союз образовывают демократические государства, всегда удавалось обо всех сложных вопросах говорить откровенно и, я думаю, плодотворно. Послевоенные Франция и Германия показали: через изучение истории, через правильное воспитание молодежи можно избежать повторения исторических конфликтов. Я думаю, это было бы полезно и для наших стран. Поучиться, как через личные контакты, через личные отношения создать хорошую платформу для сотрудничества. Или взять опять же пример Германии, где историками разрабатываются совместные учебники по истории со специалистами из Польши, Франции, Израиля, то есть создается фактологически обоснованный канон.

Что касается других проблем, они все на виду, интересно интерпретируются, особенно если смотреть те телевизионные каналы, которые здесь смотрю. Журналисты, которые считаются здесь международниками, немножко преувеличивают то, что видят. Они, на мой взгляд, не понимают, как функционирует Европейский Союз, потому что Европейский Союз не супергосударство, Европейский Союз – это политическая система государств. На мой взгляд, эта формулировка самая точная: Европейский Союз – политическая система государств, которая основывается на общей истории, культуре, географии, истории отношений и экономической основе.

**– Сейчас наблюдается рост популярности евроскептиков. Пиком было решение Великобритании о выходе из Европейского Союза, но мы видим то же и в государствах так называемой «новой Европы», мы видим политику правительств Польши, Венгрии… Таких настроений нет в Латвии? Нет разочарования?**

– Евроскептики были всегда. И у нас, в Латвии, есть тоже свои евроскептики – среди них можно встретить даже депутатов Европарламента. Их позиции в чем-то схожи, в чем-то противоположны. Что касается Великобритании, то, я думаю, надо уважать мнение, которое высказало британское общество. Вопрос, разумеется, не просто объясняемый, но если вспомнить историю, можно понять, почему британцы все-таки не чувствовали себя уютно в Европейском Союзе. Если вы смотрели сериал «Да, господин министр!», то там герой объясняет своему министру, почему надо вступить в европейское сообщество... Но историю не перепишешь. Мы хорошо знаем, что Шарль де Голль долгое время был против вступления Великобритании в европейское сообщество. Это был довольно мучительный процесс, вплоть до 1973 года, когда французская позиция поменялась. Но, опять же, есть разные подходы, и, если Великобритания считает, что вне Европейского Союза у нее больше шансов, чем внутри, это их суверенное право. При этом британцы единственные, кто воспользовался этим правом. А ведь евроскептиков во всех странах много.

**– В Латвии тоже был референдум о вхождении в Европейский Союз?**

– У нас был референдум, и, по-моему, 73 процента проголосовали «за».

**– Вы помните, как вы голосовали тогда?**

– Я голосовал за вступление и могу сказать, что, наверное, мои мысли были немножко другими, чем, может быть, у большей части населения. Мои мысли не были связаны с какими-то экономическими выгодами. Вступление в Европейский Союз означало, что мы получаем дополнительные мягкие гарантии безопасности, потому что для любого государства одна из важнейших задач – обеспечение безопасности своих граждан.

**– Вы чувствуете себя сейчас в безопасности?**

– Я думаю, что да. Разумеется, есть определенные моменты, за которыми следят, я полагаю, другие структуры, но, в принципе, да.

**– Учения, которые проходили на территории Беларуси, совместные учения Беларуси с Россией, не вызвали беспокойства Латвии?**

– В том плане, как нам была предоставлена возможность наблюдать эти учения, у нас, могу повторить, таких вопросов не было. Поскольку это совместные учения России и Беларуси – разумеется, в рамках этих учений мы смогли увидеть разные прочтения целей учений обоими государствами. Но в чисто одностороннем плане – нет.

**– То есть Беларусь рассматривается Латвией как предсказуемый и надежный партнер, ничем не угрожающий?**

– Я вполне могу согласиться с этим утверждением.

**– Как, с вашей точки зрения, складываются экономические взаимоотношения между нашими странами?**

– Экономические отношения сейчас улучшаются. Худший год у нас был, по-моему, 2016-й, когда наш общий объем торговли упал на 30 процентов, по другим подсчетам даже на 40. Разумеется, было много разных факторов, и внешние рынки тоже играли свою роль. Но сейчас мы опять возвращаемся на более-менее стабильный уровень. Конечно, значительная составляющая наших двусторонних экономических отношений – транзит нефтепродуктов. Сейчас он медленно развивается, но в других сферах идут разные процессы, более-менее положительные. Например, наши фармацевтические фирмы охотно идут на ваш рынок. По нашим меркам большой концерн «Олайнфарм» купил в Беларуси одну фирму. Это сигнал, что есть интерес.

**– Мы воспринимаем Латвию как часть Европейского Союза и понимаем, что Беларусь в повестке дня Европейского Союза все время перемещается на более низкий уровень, возникают проблемы более острые, более актуальные. Но Латвия – наш ближайший сосед. Насколько двусторонние отношения с нами актуальны для нее?**

– Здесь и ответ. Беларусь – наш ближайший сосед, она играет очень важную роль в нашем видении внешнего мира. Разумеется, есть еще потенциал, но, в принципе, за последние два года наши отношения развивались на серьезном уровне. У нас идет сотрудничество практически по всем вопросам. Оптимум еще не достигнут, разумеется, но мы приближаемся к этому.

**– Вы много ездите по Беларуси?**

– Я стараюсь посещать регионы. В Могилевском государственном университете в середине мая будем проводить семинар об истории Латвии. Надеюсь, что приедут авторы книги «История Латвии», которую перевели на белорусский язык, профессор Зунда и профессор Бутулис. Будет интересно послушать, как пройдет обсуждение.

**– Беларусь вам чем-то напоминает Латвию или отличается от нее?**

– Трудный вопрос. Разумеется, Браслав, я могу сказать, напоминает. Но у нас все-таки история была разной. Вы – наследники Великого Княжества Литовского, наша история шла немножко по-другому. Но есть какие-то ментальные вещи, которые совпадают, есть много общих страниц в истории, много исторических фактов и связей. Например, можно выдвигать гипотезу, как выдвинул директор нашей Национальной библиотеки, что Скорина мог побывать в Риге. Это интересное предположение, потому что отец первопечатника действительно был купцом Великого Княжества и имел свое торговое место в Риге.

---

У ДВУХ СКАЗАХ

***

У Германії знайшлі магчымага ўдзельніка забойстваў мірнага насельніцтва (перш за ўсё яўрэяў) у вядомым Бабіным Яры пад Кіевам падчас Другой сусветнай вайны. Сёння гэтаму чалавеку 96 год, ён мог служыць, як сцвярджае пракуратура, у "Вафен-СС".

***

Саудаўскі наследны прынц Мухамед бін Салман стаў першай афіцыйнай асобай каралеўства Саудаўская Аравія, якая прызнала права Ізраіля жыць на сваёй зямлі. Згодна са словамі прынца, палясцінцы і ізраільцяне маюць роўнае права на сваю зямлю, але ж для забеспячэння стабільнасці і нармальных адносін патрэбна мірная дамова паміж народамі.

***

Амерыканскія ўлады ўпершыню прызналі, што вакол Вашынгтона працуюць шпіёнскія прылады, якія могуць несанкцыянавана праслухоўваць тэлефонныя размовы і іншыя афіцыйныя каналы сувязі. Між тым Міністэрства нацыянальнай бяспекі ЗША не здолела выявіць, каму належаць гэтыя прылады, нягледзячы на тое, што зафіксавала іх актыўнасць.

***

У Францыі тыя, каго паліцыя злавіць за ўжываннем марыхуаны, будуць плаціць штраф у 300 еўра, – заявіла міністр юстыцыі Францыі Нікаль Белубе. Гэта змякчэнне пакарання: дагэтуль за аналагічны ўчынак заканадаўства прадугледжвала да года турмы і 3750 еўра штрафу.

***

Старшага выхавальніка дзяржаўнай кадэцкай школы ў Маскве "Раманаўская школа" Барыса Вяршыніна абвінавацілі ва ўдзеле ў тэрарыстычнай арганізацыі і арыштавалі – першапачаткова да 21 мая. Вяршыніна падазраюць па ўдзеле ў забароненым зараз руху "Народнае апалчэнне імя Мініна і Пажарскага", створаным у 2008 годзе былым палкоўнікам ГРУ Уладзімірам Квачковым, які абвінавачваўся ў свой час у падрыхтоўцы тэракта супраць Анатоля Чубайса.

***

Еўрапейскі Саюз адклаў перадачу Малдове фінансавай дапамогі ў памеры 100 мільёнаў еўра – першага траншу стабілізацыйнага крэдыту. Афіцыйны Кішынёў мусіць выканаць 10 умоў, у тым ліку забеспячэнне дэмакратычных працэдур падчас маючых адбыцца выбараў, а таксама вярнуць мільярд долараў, які быў скрадзены з малдаўскіх банкаў.

ІХ НОРАВЫ

## Не на таго каня паставіў



Мэра французскага мястэчка Ле-Крамлен-Бісетр Жан-Марка Ніколя абвінавачваюць у хабарніцтве. Ён атрымліваў незаконна грошы ад прадпрыемстваў і прасаджваў іх на іпадроме.

Схема была нескладаная. За тое, што мэр дапамагаў фірмам выйграць дзяржаўныя тэндары на будаўнічыя і смеццеўборачныя работы, яны пералічвалі грошы на рахунак асацыяцыі дэгустацыі він, старшынёй якой з'яўляўся спадар Ніколь. Той праз пэўны час здымаў грошы з рахунку і рабіў на іх стаўкі на іпадроме. Усяго з 2010-га па 2017 г., паводле версіі следства, мэр зрабіў такім чынам 45 тысяч ставак на агульную суму 973 тысячы еўра. Колькі ён выйграў, у паведамленнях інфармацыйных агенцтваў нічога не кажуць.

Жан-Марку Ніколь 53 гады, ён былы машыніст метро. Часткова мэр прызнаў сваю віну. Дарэчы, абвінавачванне таксама прад'яўлена ягонай сакратарцы.

---

НА ДАЛОНЯХ ВЕЧНАСЦІ

## Анатоль БУТЭВІЧ

# Крэўскі замак



Між маляўнічых боханаў-пагоркаў Смаргоншчыны атуленыя шаўкавістай муравой ціха дрэмлюць ссівелыя ад часу і ваеннага попелу руіны некалі магутнага і грознага Крэўскага замка. Гэта быў першы цалкам мураваны замак у Вялікім Княстве Літоўскім. Збудаваны ў сутоках рэчак Краўлянкі і Шляхцянкі на заходняй ускраіне вёскі Крэва ў 30-я гады XIV стагоддзя, замак надоўга стаў сімвалам магутнасці і дзяржаўнай моцы вялікалітоўскіх уладароў.

Будавалі замак на балоцістым поплаве і насыпаным з пяску выдме. Таму нават пад глыбокія (2–3 метры) фундаменты падкладвалі своеасаблівыя падушкі з дробнага камення і гліны, дубовых і яловых жэрдак і галін – каб мякка было амаль трохметровай тоўшчы сценам, каб не разносілася рэха страшных падзей, што часам тварыліся тут.

Кажуць, што падобныя збудаванні, як магутныя гняздоўі арлінай славы, былі пад сілу толькі сапраўдным волатам альбо нават самім багам. Крэўскі замак будавалі ў адначасce з Медніцкім, да якога было сем міляў – больш як 10 кіламетраў. Калі дойлідам з Медніскаў бракавала мулярскага молата, яго перакідвалі ў паветры з Крэва. Пра волатаўскую сілу крэўскіх майстроў сведчаць і велізарныя валуны, якія на недасягальнай вышыні завапнаваны ў сценах замка. Ці не з той пары захавалася ў людскім асяроддзі выслоўе: «Каб ты на Крэўскі замак валуны цягаў».

Разам з Лідскім, Навагародскім, Медніцкім і Трокскім Крэўскі замак складаў адну лінію магутных крапасных умацаванняў, якія, кажуць, злучаліся між сабой падземнымі лёхамі-хадамі. Замак меў форму няправільнага чатырохвугольніка са сценамі ад 71 да 108 метраў і да 13 метраў увышкі. Іхняя таўшчыня складала 2,5–3 метры. Ягоную магутнасць падкрэслівалі дзве вежы, злучаныя па дыяганалі ўнутранай брукаванай дарогай, шырыня якой была каля 8 метраў. Адна з іх і па сваёй архітэктурнай выразнасці, і па складзе насельнікаў справядліва насіла назву Княскай. У паўднёва-ўсходняй сцяне была ўязная брама. Хоць Крэўскі замак вылучаўся найперш мясцовымі асаблівасцямі абарончага дойлідства, аднак меў ён і прыкметы еўрапейскай архітэктуры: нагадваў шырока распаўсюджаныя ў Еўропе замкі-кастэлі.

У двары замка знаходзілася шмат пабудоў, быў ставок з вадой.

За свае доўгае жыццё замак зведаў славу і няславу, шум вялікіх бясед і гоман ведзьміных шабасаў, багацце і занепад, разбурэнне і адраджэнне, візіты знаных гасцей, дзяржаўных асоб і непамысныя злачынствы. Пра тое сведчыць сама планіроўка манументальнага збудавання. Шыкоўна абстаўленыя верхнія пакоі – для велікакняскай знаці. Падземныя лёхі і вязніцы – для яе супраціўнікаў, няхай сабе і княскага паходжання. Як сведчыць гісторыя, не пуставалі ні першыя, ні другія.

З лёсам Крэўскага замка цесна знітаваны лёс Вялікага Княства Літоўскага. У XIV–XVII стагоддзях ён быў рэзідэнцыяй вялікіх князёў літоўскіх. Тут станавілася на крыло наша дзяржаўнасць, тут спеліся рунь палітычных, дыпламатычных, культурных набыткаў ВКЛ. Гэта быў час не толькі ўмацавання дзяржавы, але і жорсткіх сутычак з крыжакамі, час міжусобных войнаў, што ганьблі крэўныя повязі валадароў. На Крэўскі замак прыгоды, здарэнні і нягоды сыпаліся, як гарох з дзіравага меха.

32 гады княскі пасад у Вялікім Княстве Літоўскім займаў першабудаўнік замка, адзін з сямі сыноў Гедыміна вялікі князь Альгерд. За гэты час узвысілася слава дзяржавы, удвая павялічылася яе тэрыторыя. Але не стала Альгерда, і вострыя канфлікт выбухowым порахам успыхнуў паміж Кейстутам і Ягайлам. На загадзе вялікага князя Ягайлы ў 1382 годзе ў лёхах Княскай вежы адбылося страшнае зладзейства. Залатым матузком свайго ж урачыстага ўбору быў задушаны сын Гедыміна вялікі князь Кейстут. Вось як сказана пра гэта ў Супрасльскім летапісе: «Князя великого Кестутия, дяду своего, оковав, до Креву послали и всадили во вежю… И тамо во Креиве пятои нощи князя великого Кестутия удавили коморникы князя великого Ягайлавы». Людзі адразу ж назвалі Княскую вежу вежай Кейстута.

Падобны зыход рыхтавалі і сыну Кейстута, будучаму вялікаму князю Вітаўту, які таксама зведаў вязніцу Крэўскага замка. Аднак яму ўдалося ўцячы. Ён пераапрануўся ў адзенне жончынай служанкі, апынуўся спачатку за сценамі замка, а пасля ў стане крыжакоў. Разам з імі помсціў свайму крыўдзіцелю Ягайлу, спапяляючы велікакняскія гарады і крэпасці.

Пачаўся цяжкі і заблытаны перыяд змоў, інтрыг, бунтаў-пераваротаў, авантур. Знешняя небяспека, вострыя міжусобныя сваркі, жаданне ўмацаваць сваю ўладу вымусілі Ягайлу заключыць у Крэве 14 жніўня 1385 года унію з палякамі, якую назвалі Крэўскай. Гэта быў саюз Вялікага Княства Літоўскага і Польскага каралеўства. У выніку ў 1386 годзе вялікі князь літоўскі Ягайла стаў каралём польскім Уладзіславам II. Тады ж ён перадаў Крэва свайму брату Аляксандру – Вігунду, які ў 1391 годзе (такі няўдзячны лёс апошняга крэўскага князя) быў атручаны, а сам Ягайла пераехаў у Кракаў, які з'яўляўся тады польскай сталіцай.

Крэўская унія ўмацавала пазіцыі Вялікага Княства ў Еўропе. Але яна паспрыяла ўзвышэнню ролі каталіцызму ў дзяржаве. Язычніцкія Гедымінавічы ў сваёй большасці перайшлі ў каталіцтва. Касцёл атрымаў магчымасць ахрысціць апошні язычніцкі народ у Еўропе – літоўскі. Пры падтрымцы Папы Рымскага гэта рабіў Ягайла. Па загадзе караля ў 1387 годзе ў Крэве быў заснаваны адзін з першых у ВКЛ касцёл. Дэманстратыўна яго заклалі на рэштках язычніцкага капішча, дзе крывічы пакланяліся свайму богу Перуну. Ды нічога не даецца дарма. Суродзічы караля не маглі пагадзіцца з акаталічваннем беларускіх і ўкраінскіх земляў. Супраць Крэўскай уніі і ўлады Ягайлы выступалі полацкі князь Андрэй Альгердавіч і будучы вялікі князь літоўскі Вітаўт.

Не ладзілася і асабістае жыццё караля. У трыццаць пяць гадоў ажаніўся з дванаццацігадовай каралевай польскай Ядвігай, праз трынаццаць гадоў сумеснага жыцця аўдавеў, не займеўшы наследнікаў. Яшчэ тры разы жаніўся ён. І толькі з беларускай князёўнай Соф'яй Гальшанскай шлюб аказаўся ўдалым – ад іх пайшла знакамітая Ягелонская дынастыя.

Муры Крэва зведалі шматлікія аблогі і спустошанні. Замак штурмам браў мяцежны князь Свідрыгайла, бамбардзіравалі крыжакі, некалькі разоў безвынікова штурмавалі татары. У 1519 годзе ён быў захоплены маскоўскімі войскамі.

Тут меў прыстанішча рускі князь Андрэй Курбскі. У 1564 годзе ён уцёк ад дэспатызму Івана Грознага. Менавіта ў гэтым замку нараджаліся знакамітыя палемічныя лісты Курбскага да рускага цара…

Разбурэнне манументальнай сярэднявечнай крэпасці даконыла Першая сусветная вайна. Больш як тры гады Крэва знаходзілася на лініі фронту. У замку гаспадарылі немцы. Пад абстрэламі моцна пацярпела знакамітая Княская вежа, сам замак.

А таленавіты творца і жорсткі знішчальнік час сваімі нястомнымі жорнамі перамалоў і велізарныя ледавіковыя валуны ў сценах Крэўскага замка, і самі легендарныя сцэны. Руіны замка сёння нагадваюць разбуранае гняздо былой крывіцкай славы.

